

# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ БАРОКА

Паўночна-Усходняя Беларусь на Via Regia

BY

# Уступ

Via Regia – гэта гандлёвая дарога, якая злучала Гішпанію з краінамі Усходняй Еўропы з XIV стагоддзя. Гэта таксама - галоўны гандлёвы тракт, які злучаў Кракаў і Вялікае княства Літоўскае з Масковіяй. Па гэтай дарозе абмену ідэямі паміж Захадам і Усходам на землі Вялікага княства Літоўскага прыходзілі мастакі з Сілезіі, Чэхіі і паўночнай Італіі, асабліва з раёну возера Кома, якія прыносілі з сабой новыя мастацкія вобразы і найлепшыя архітэктурныя ідэі з Еўропы.
Брашура “Беларускі шлях барока. Беларусь на Via Regia” – гэта спроба тэматычнага погляду на беларускую частку Via Regia, на сакральную архітэктуру гэтага рэгіёна, які з’яўляецца ўнікальным у рамках еўрапейскай культурнай прасторы. Асаблівым чынам варта вылучыць сакральную архітэктуру другой паловы XVIII ст., якая пакінула важны след на гэтых землях у выглядзе касцёлаў з характэрнымі рысамі: звычайна дзвюма высокімі зграбнымі вежамі, простымі архітэктурнымі планамі і крывалінейнымі “розныя” фасадамі. Гэтыя касцёлы стваралі выразную дамінанту ў краявідах беларускіх мясцін, па-майстэрску размешчаліся ў прасторы гарадоў.
“Беларускі шлях барока” з’яўляецца турыстычнай распрацоўкай галоўнага маршрута Via Regia па лініі Сандамеж-Люблін-Гродна-Вільня і Вільня-Смаленск. Ён перасякаеццаз іншымі мясцовымі гістарычна-культурнымі шляхамі, напр.: гандлёвы шлях Вільня-Мінск-Віцебск. Гэтая брашура - першы крок у кірунку вылучэння культурна-турыстычнага шляху архітэктуры барока ў Беларусі. Нашай мэтай з’яўляецца як распрацоўка і папулярызацыя даступных матэрыялаў на дадзеную тэму, так і заахвочванне спецыялістаў да больш глыбокіх даследаванняў у гэтай сферы, а таксама развіццё турызму вакол аб’ектаў, прадстаўленых у публікацы. У першай частцы праекта ўдалося распрацаваць групу аб’ектаў (таксама і тых, што, на жаль, ужо не існуюць), якія з’яўляюцца важнымі для разумення феномена архітэктуры паўночна-усходняй Беларусі. У будучыні хацелася б падняць тэмы архітэктуры заходняй, паўднёвай (Палессья), усходняй (ад Оршы да Гомеля) Беларусі, а таксама ваколіц Мінска.
Гэтай публікацыяй мы хацелі б абудзіць зацікаўленасць да гэтых забытых прыкладаў рэцэпцыі мастацкай думкі, якая на беларускіх землях знайшла новую незвычайную рэалізацыю. (www.drogibaroku.org)

### На дарозе да сакральнай архітэктуры XVIII стагоддзя на землях Вялікага княства Літоўскага

Прымяненне крывой лініі як элемента архітэктурнай кампазіцыі адбывалася ўжо ў сярэднявеччы, аднак тады выкарыстанне было звужана, перадусім да дэкаратыўных элементаў, такіх як ажурныя дэкарацыі вокнаў ці рэбраў скляпенняў. Папулярнасць крывалінейных архітэктурных формаў прыпадае толькі на XVII ст. і, нягледзячы на мінулыя прэцэдэнты, мела рэвалюцыйны характар. Яе ініцыятарам быў Францэска Бараміні (1599–1667), які паказаў несустраканую раней вынаходлівасць. Ён спалучаў адбіткі кругоў і эліпсаў у мудрагелістыя кампазіцыі архітэктурных планаў, на аснове якіх узводзіліся пабудовы з хвалістымі сценамі, аздобленымі выгнутымі карнізамі. Дасканалым прыкладам такога твора з’яўляецца касцёл San Carlo alle Quatro Fontane (касцёл Св. Карла ля чатырох фантанаў), пабудаваны ў Рыме для трынітарыяў у 1634–1644 гг. Гэтая майстэрская пабудова выклікала захапленне ў наступнага пакалення архітэктараў. Сярод іх вылучаўся Гварына Гварыні (1624–1683), старшыня Ордэна тэатынаў, матэматык, філосаф і тэолаг. Ён працягваў архітэктурныя эксперыменты Бараміні, праектуючы касцёлы у выглядзе некалькіх эліпсаў, якія перасякаюцца, і спалучаў вынікі з натхненнем ад трансальпійскай архітэктуры сярэднявечча як з тэрыторыі Францыі, так і з арабскай Андалузіі (як у турынскім касцёле San Lorezo, 1668–1687). Ён дасягаў незвычайных вынікаў, як і ў сінтэзекартэзіянскага рацыяналізму і рэлігійнай містыкі ў сваіх філасофскіх працах.
Творчасць Гварыні знайшла шматлікіх пас-

лядоўнікаў у П'емонце. Да іх належалі Філіпа Ювара (1678–1736), творца паляўнічага палаца ў Ступініджы пад Турынам (1729–1733) – манументальнай пабудовы з вялікай залай у форме двух скрыжаваных эліпсаў, а таксама Бендэта Вітонэ (1705–1770), творца шматлікіх велічных будынкаў з цэнтралізаванымі увагнута-выпуклымі сценамі, такіх як касцёл Santa Chiara у Бра (1742–1748). Аднак праекты геніяльнага тэатына ўплывалі значна шырэй, дзякуючы распрацаванаму ім трактату пра архітэктуру, гравюры з якога былі вядомыя ва ўсёй Еўропе. Адна з іх паказвае нерэалізаваны праект касцёла ў Празе, які выклікаў асаблівую зацікаўленасць мясцовых архітэктараў, сярод якіх вядучай постаццю быў Кшыштаф Дзінцэнгофер (1655–1722). Ён меў магчымасць бачыць творы Гварыні ў на працы Гварыні як у пабудовах з антычымі ўплывамі (касцёл у Кршцінах каля Брна, 1718–1750), так і ў натхнёных сярэднявечнай архітэктурай (касцёл у Ждзяры над Сазавоу, 1719–1722). Абодва выпадкі дэманструюць незвычайную фантазію і архітэктурнае майстэрства. Самую вялікую колькасць вядомых пабудоў узнёс Кіліан Ігнац Дзінцэнгофер (1689–1751), сын Кшыштафа, які працаваў таксама ў Сілезіі, дзе праектаваў касцёл на Легніцкім Полю (1727–1731), а, магчыма, таксама незвычайны манументальны касцёл цыстэрцыянаў у Кшэшаве (1728–1735).

Мастацтва Бараміні і Гварыні знайшло вядомых паслядоўнікаў у Аўстрыі. Да іх належаў Іаган Міхаэль Пруннэр (1669–1739), аўтар паломніцкага храма ў Штадль-Паўра (1714–1724). Сярод выдатных прыкладаў



Касцёл езуітаў, Мала Страна, Прага, фота: Кінга Блашке



Касцёл у Ждзяры над Сазавоу, фота: Міхал Кужэй

Турыне, а гэты досвед выкарыстаў, узводзячы касцёлы ў форме паслядоўна-пранікаючых эліпсаў. Сярод іх - касцёл бенедыктынцаў у Бржэўнаве пад Прагай (1708–1721) і езуітаў на пражскай Малай Стране (1709–1717).

Выразныя маляўнічыя пабудовы крывалінейнай формы хутка сталі вызначаць галоўны кірунак творчасці пражскага архітэктурнага асяродка, які праз архітэктараў малодшага пакалення аздобіў усе землі Каралеўства Чэхіі. Самым цікавым з іх быў Ян Блажэй Санціні-Ахель (1677–1723), які спасылаўся трэба назваць венскі касцёл піяраў (1716–1722) з хвалістымі сценамі нявызначанага аўтарства, якое некаторыя звязваюць з Іаганам Лукасам фон Хільдебрандтам (1668–1745).

Мудрагелістая крывалінейная архітэктура, на жаль, ніколі не стала такой папулярнай ў Польшчы. Выключэннем былі землі русінаў, дзе дзейнічаў Бернард Мэрэтын (пам. 1759) - аўтар, у прыватнасці, львоўскага кафедральнга грэк.-кат. храма Св. Юрыя (1744–1772) і касцёла місіянараў у Гарадэнцы (сконч. 1760), які відавочна залежны ад твор



Кафедральны грэк.-кат. храм Св. Юрыя, фота: Міхал Кужэй

часці Кіліана Ігнацыя Дзінцэнгофера, які мог быць яго настаўнікам.

Хвалістасць сценаў галоўным чынам абмяжоўвалася толькі на фасадзе. Да ранніх прыкладаў належыць мазавецкі касцёл піяраў у Ловічы (1720–1731) і парафіяльны касцёл у Карчаве (1728–1743), абодва звязаны з Каралем Антоніем Баем (1678–1742), а таксама касцёл цыстэрцыянаў у вялікапольскім Лондзе (1728–1733), запраектаваны Пампеем Феррары (пам. 1736). Такія рашэнні былі папулярныя на русінскіх землях: у бязвежавым варыянце з увагнутым галоўным полем, як у касцёлах кармелітаў у Бярдычаве (1737–1754) і дамініканцаў у Львове (1744–1764), запраектаваным Янам дэ Вітэ (1709–1785), ці ў двухвежавым, выпуклым, абкружаным скошанымі вежамі, – як у касцёле піяраў у Хэўме (1753–1763) аўтарства Паўла Антонія Фантаны (1696–1765) і ў вялікай царкве манастыру базыліянаў у Пачаеве (1771–1779). Больш сціплым прыкладам падобнага рашэння з'яўляецца касцёл у Любашу (1751–1761).

Варта згадаць таксама ўнікальны малапольскі твор, якім з'яўляецца аднавежавы касцёл трынітарыяў (зараз належыць баніфратам) у Кракаве (1752–1758). Аднак у польскай архітэктуры імкненне да дынамічнасці архітэктурнай кампазіцыі абмяжоўвалася пераважна нахіленым дабаўленнем пілястраў ці нязначнай пукатасцю дробных фрагментаў сценаў, прынцыпова ўзведзеных па простай лініі.

На гэтым фоне выразна адрозніваецца архітэктура Вялікага княства Літоўскага, дзе прыблізна ў сяр. XVIII ст. вызначаецца галоўны архітэктурны накірунак пабудовы са скульптурна апрацаванай формай, экспрэсіўнай у сваёй рэалізацыі. Гэтая з'ява даўно інтрыгавала даследчыкаў, якія выказвалі розныя меркаванні, ці гэта было вынікам творчасці мастакоў, якія прыязджалі ў Літву з Італіі, ці сфарміравалася ў выніку чэшскіх уплываў; ці сведчыць пра незвычайную вынаходлівасць віленскіх будаўнікоў, якія карысталіся графічнымі выявамі. Гэта праблема падаецца, прынамсі пакуль, немагчымай для вырашэння, таму варта паглядзець на гэты феномен з іншага боку. Трэба памятаць, што ў XVIII ст. форму пабудовы вызначаў яе фундатар, а не архітэктар. З іншага боку, неабходна заўважыць, што ў Літве, у адрозненне ад Польшчы, такая экспрэсіўная архітэктура стала моднай не толькі сярод вузкай эліты. Яна карысталася вялікім попытам, што знайшло водгук у прапановах таленавітых будаўнікоў, якія дзейнічалі ў Вільні, дзе паўсталі самыя выбітныя творы, а таксама і ў меншых гарадах і далёкай правінцыі.

Аднак згаданы кірунак меў спецыфічны характар і, падобна, як у іншых частках Рэчы Паспалітай, быў абмежаваны пераважна другаснымі элементамі, часта дадаванымі да ранейшых пабудоваў ці нават да традыцыйных мадэрнізаваных кампазіцый. У сакральнай архітэктуры гэта былі ў асноўным фасады ці толькі верхнія часткі вежаў, а ўнутры – алтары і хоры. Аднак гэтыя элементы атрымлівалі ўнікальны манументалізм і такую ступень складанасці, якую рэдка сустрэнеш у іншым месцы, пры гэтым часта яны былі распрацаваны з выключнай мастацкасцю.
(М.К.)

# Беразвечча

рус. Березвечье, пол. Berezwecz; сучасны паўн.-усх. раён горада Глыбокае, Віцебская вобласць

### Кляштар базыліянаў

Заснаваны ў 1637 г. мсціслаўскім ваяводай Юзафам Корсакам (пам. 1643). Быў адной з самых важных установаў ордэна побач з Вільняй і Быценем у Вялікім княстве Літоўскім. У XVIII ст. у ім размяшчаўся навіцыят, вышэйшыя школы ордэна і рэзідэнцыя архімандрыта – літоўскага правінцыяла, які звычайна выконваў аднначасова абавязкі мясцовага прыёра. Пасля скасавання кляштара (1834) адчынены замест яго ў 1847 г. праваслаўны мужчынскі манастыр Раства Багародзіцы, які зачынілі ў 1874 г. У 1901-1915 гг. размяшчаўся жаночы манастыр, які эвакуіравалі у Ялец (Арлоўская губерня). У 1920 г. у кляштары размяшчаўся гарнізон Корпуса аховы памежжа. Пасля Другой сусветнай вайны будынак займалі следчая турма НКУС (1939–1941) і нямецкі канцэнтрацыйны лагер (1941–1944), а з канца вайны і да сённяшняга дня – турма строгага рэжыму, якую ў народзе называюць «Тэхас».

Уяўляе двухпавярховы будынак, узведзены ў выглядзе літары Н, да якога з усходу прылягала царква.

### Базыліянская царква Св. Пятра і Паўла

Пабудавана ў 1756–1763 гг. намаганнямі ордэна. Спраектавана Дамінікам ці Антоніё Парацца (?). У 1766–1776 гг. была павялічана для араторыя. Адрэстаўравана ў 1820 г. высілкамі прыёра Тадэуша Маеўскага; у 1901–1909 гг. была грунтоўна адрамантавана (напрыклад, пашыраны араторый, закладзены жалеза-бетонныя скляпенні, замаляваны насценныя мастацкія ўнутраныя і вонкавыя дэкарацыі, пабудаваны драўляны іканастас). У 1920 г. царква была перададзена католікам. Апошні раз царква аднаўлялася ў 1930 г. З 1949 г. яе сцены паступова разбіраліся, а ў 1970 г. яна была ўзарвана. У корпусе базілікі выкарыстана схема крыжа, упісанага ў прамакутнік. Сіметрыя вылучала не толькі фасад, але таксама бакавыя сцены з нязначна выступаючымі і часткова закрытымі вузкімі канцамі трансепта.

Высокі хвалісты фасад з дзвюма вежамі, скампанаваны па ўвагнута-выпуклай лініі, мудрагелістыя формы вяршынь вежавых шчытоў, мастацкая форма ваконных праёмаў і профіляў, а таксама афармленне і барэльефы высокага класа стваралі шэдэўр еўрапейскай архітэктуры XVIII ст. Экспрэсіўная архітэктура Беразвечча паўплывала на шматлікія познебарakовыя храмы Вялікага княства Літоўскага.



Петрапаўлаўская царква базыльян

# Будслаў

рус. Будслав, пол. Budsław; Мінская вобласць

У 150 км ад Мінска знаходзілася месца, якое называлася Буда, яно месцілася ў пушчы, перададзенай Аляксандрам Ягелончыкам віленскім бернардынцам у 1504 г. У 1588 г. атрыманы першыя сведчанні пра яго. Пасля 1613 г. пачаў развівацца паломніцкі рух, калі туды патрапіў вядомы цудамі абраз Маці Божай (каранаваны ў 1998 г.), прывезены з Рыма віленскім ваяводай Янам Пацам. У 1633–1643 гг. намаганнямі гвардыяна Фларыяна Калецкага з фундацыі полацкага ваяводы, гетмана Януша Кішкі (пам. 1653) архітэктар Анджэй Кромер пабудаваў невялікі двухвежавы храм, аздоблены ў 1649 г. чорназалатым алтаром з перспектывай (зараз гэта капліца Св. Барбары, якая знаходзіцца з боку прэсбітэрыя новага касцёла). У 1732 г. Будслаў атрымаў права на самакіраванне.

### Кляштар бернардзінцаў

Кляштар паўстаў у 1661 г. Пабудаваны ў 1750–1787 гг. з фундацыі жонкі ковенскага харужага Барбары з Сакалінскіх Скарульскай. Зачынены ў 1858 г. З 1863 г. у ім размяшчаліся казармы. Быў разабраны ў канцы XIX ст.

Гэта быў двухпавярховы мураваны будынак, у плане меў форму падковы, звязаны адным крылом з капліцай Св. Барбары. З боку плошчы меў уваход, пазначаны вежай.

### Касцёл бернардзінцаў Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі

Пабудаваны ў 1767–1783 гг. пад кіраўніцтвам гвардыяна Канстанціна Пенсы, напэўна, па праекту Юзафа Фантаны. З 1783 г. пры ім дзейнічала парафія. У 1783–1790 гг. быў упрыгожаны дзевяццю аптычнымі бакавымі алтарамі (маст. Казімір Анташэўскі) і гал. перспектыўным алтаром, які вылучае манаскі хор, выкананы ў 1784–1790 гг., напэўна, паводле праекта Марціна Кнакфуса. У 1924–1939 і пасля 1992 г. касцёл грунтоўна рэстаўраваўся. У 1993 г. святыня атрымала статус малой базілікі. Адрадзіўся паломніцкі рух, кульмінацыяй якога з'яўляюцца штогадовыя святкаванні 2 ліпеня. У 1996 г. у Будслаў вярнуліся бернардзінцы.

Касцёл пабудаваны ў плане лацінскага крыжа, мае доўгі прамавугольны прэсбітэрый і шырокі (50 м), незвычайна манументальны, двухузроўневы фасад, які ўпрыгожаны калонамі і вежамі па баках. З'яўляецца адным з найбуйнейшых храмаў, пабудаваных на землях Рэчы Паспалітай у XVIII ст. Крыжовая прастора акцэнтавана авальным сляпым купалам, схаваным у канструкцыі даху. Форма фасада падобна да нерэалізаванага праекта ў Рыме касцёла San Carlo al Corso (1613, Анорыа і Марціна Лонгі), выкарыстанага раней Юзафам Фантанай у базільянскім кафедральным храме ў Віцебску.



Фасад касцёл бернардзінцаў Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі



Касцёл бернардзінцаў Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі – галоўны неф

# Глыбокае

рус. Глубокое, пол. Głębokie; Віцебская вобласць



Парафіяльны касцёл Св. Троіцы

### Кляштар кармелітаў босых

Заснаваны мсціслаўскім ваяводай Юзафам Корсакам, які перадаў ордэну сваю (полацкую) частку горада. Пабудаваны ў 1641–1646 гг. З 1727 г. быў сядзібай навіцыяту, перанесенага з Вільні. Скасаваны ў 1862 г. Пасля 1864 г. выкарыстоўвася пад турму і паліцэйскае аддзяленне, а ў 1892 г. часткова разабраны. Пасля 1945 г. у адным захаваным крыле размяшчаліся малочны камбінат і кансервавы завод.

Гэта быў двухпавярховы будынак, які прымыкаў да паўн.-зах. боку прэсбітэрыя і ствараў з ім чатырохкутнік з унутраным дзядзінцам.

### Касцёл кармелітаў босых Успення Прасвятой Панны Марыі

Пабудаваны ў 1639–1654 гг. Адрэстаўраваны пасля руйнаванняў у 1655 г. Быў асвечаны ў 1735 г. У сяр. XVIII ст. пашыраны (хутчэй за ўсё, архітэктарам Абрамам Вюртцэнам), дзякуючы вежы і шчыту, якія звернуты фасадам да рынка, наперадзе якога знаходзіцца брама з трыма ўваходамі. Пасля скасавання кляштара касцёл зачынены ў 1864 г., а ў 1872 г. перададзены праваслаўным. Зэатым, у 1875–1878 гг., перабудаваны на Свята-Раства-Багародзіцкі сабор (быў увенчаны драўляным купалам, які зруйнавалі ў 1944 г.). Храм вярнулі католікам у 1921 г. Адноўлены ў 1932 г. Зараз зноў з'яўляецца праваслаўным саборам. Касцёл пабудаваны на плане прамакутніка, меў трансепт і масіўныя вежы з боку прэсбітэрыя. Падчас мадэрнізацыі ў сяр. XVIII ст. дададзены вежы з боку фасада, якія звужаюцца ў верхніх частках і на вуглах змяшчаюць пучкі калон і пілястраў. Фасад фланкіраваны моцна выпуклым франтонам, які падкрэслівае фрагментаваную дэкарацыю ў форме нішаў і ляпных карнізаў. У XVIII ст. унутраную прастору ўпрыгожвалі пятнаццаць алтароў.

### Парафіяльны касцёл Св. Троіцы

Парафія створана ў 1628 г. мсціслаўскім ваяводай Юзафам Корсакам. У 1639 г. уладкавана на сродкі кармелітаў. Парафія дзейнічала пры касцёле на усход. баку рынка, насупраць касцёла кармелітаў.

Пабудаваны ў 1764–1782 гг. намаганнямі пробашча Антонія Яшчалта (пам. 1782), скончаны яго пераемнікам кс. Міхалам Федаровічам. Касцёл пастанна дзейнічаў з часу заснавання. У 1902–1908 гг. былі пашыраны бакавыя нефы, трансепт, закрысція і два верхніх узроўні вежаў паводле праекта Адама Дубовіка. Адрамантаваны ў 1987–2003 гг.

Касцёл узведзены на штучным пагорку. Першапачаткова быў аднанефавы з прэсбітэрыем, закрытым апсідай і ўвенчаным высокім шчытом у выглядзе паўкола. Зграбны двухвежавы фасад падзелены добраўпарадкаванымі пучкамі пілястраў і скошана пастаўленымі паўслупамі, якія акцэнтуюць вуглы верхніх частак вежаў і лёгка выпуклую цэнтральную прастору, якая ўвянчана высокім мудрагелістым шчытом, акружаным валютнымі завіткамі. Унутры захаваліся тры драўляныя алтары з XVIII ст. У верхняй частцы гал. алтара знаходзіцца шанаваны цудатворны абраз Маці Божай Глыбоцкай, перанесены ў 1865 г. з касцёла, адабранага ў кармелітаў.

# Германавічы

рус. Германовичи, пол. Hermanowicze; Віцебская вобласць

Мястэчка над Дзіснай, належала Сапегам (ад XVI ст.), Гільзенам (1739–1782) і Шырынам (1782–1939).

### Парафіяльны касцёл Перамянення Панскага

Пабудаваны ў 1782–1787 гг. па фундацыі уладальніка мястэчка, браслаўскага гродскага суддзі Ігнацыя Зрыні-Шырына (пам. 1796) і Марыянны з Якубоўскіх. Быў прызначаны для сямейнай пахавальні. З 1810 г. пры ім дзейнічала парафія. Зачынены ў 1948 г., у 1988 г. вернуты каталікам.

Гэта двухвежаны касцёл, аднанефавы з ніжэйшым, часткова закрытым прэсбітэрыем. Па форме падобна да касцёла піяраў у Лужках. Высокія вежы высунутыя за межы аб'ёма корпуса, а іх два апошніх узроўні вузейшыя ў адносінах да размешчаных ніжэй. Пад хорамі ляпная дэкарацыя, якая прадстаўляе музычныя інструменты.



Парафіяльны касцёл Перамянення Панскага

# Княжыцы

рус. Княжицы, пол. Kniażyce; Магілёўская вобласць

Вёска размешчана ў 20 км на паўн.-зах. ад Магілёва. У 1632–1835 гг. тут знаходзілася рэзідэнцыя кармелітаў босых (пасля яе застаўся кляштарны будынак з XVIII ст.).

### Кляштар дамініканцаў

Заснаваны ў 1681 г. літоўскім надворным харужым Канстанцінам Уладзіславам Пацам і Аляксандрай з Лісоўскіх. Скасаваны ў 1832 г.

Гэта быў драўляны будынак. Не захаваўся.

### Касцёл дамініканцаў св. Мікалая

Пабудаваны ў 1760–1770 гг. на сродкі вялікага літоўскага пісара Антонія Міхала Паца (пам. 1774) і Тэрэсы з Радзівілаў. Асвечаны ў 1780 г. Пасля скасавання кляштара пры ім функцыянавала парафія. У 1865 г. храм перарабілі пад царкву св. Аляксандра Неўскага і ў 1872 г. перабудавалі. Касцёл, пакінуты ў 1940 г., застаецца руінай (рамонт, пачаты ў 1998 г., быў закінуты пасля ўстаноўкі рыштаванняў).

Гэта сценна-слупавы касцёл з квадратным прэсбітэрыем. Неф утрымлівае увагнутыя поласці (падобна як у касцёлах дамініканцаў у Посіні ў Інфлянтах, францішканаў у Дзісне і заснаваным Пацам касцёле ў Язне на тэрыторыі Літоўскай Рэспублікі).

Шырэйшы на вялічыню таўшчыні сценаў цэнтральны пралёт вызначаны невялікім трансептам. Унутры захаваўся стукавы гал. алтар і ўвагнута-выпуклыя хоры. Двухвежавы фасад падзелены пілястрамі, перабудаваны ў 1872 г. (вяршыня і канцы вежаў), атачаныя невялікім брамкамі, ствараючымі перад уваходам трапецападобны дзядзінец.

# Касцяневічы

рус. Костеневичи, пол. Kościeniewicze; Мінская вобласць

Мясцовасць знаходзіцца 25 км на ўсх. ад Вілейкі. У ахвяраваным ў 1652 г. Паўлам Ляскоўскім маёнтку для езуіцкага акадэмічнага калегіума ў Вільні дзейнічала езуіцкая місія. Пасля скасавання ордэна ў 1773 г. належыла жамойцкаму біскупу Аляксандру Гараіну.

**Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі**

Пабудаваны ў 1763–1765 гг. намаганнямі гродзенскага рэктара айца Казіміра Вазгірда, пробашча Феліцыяна Сулістроўскага і падчашага Міхала Відмонта. Асвечаны ў 1780 г.

Прамакутная зала з пляскатым фасадам, які ўвенчаны франтонам з валютамі. Унутры пад столлю знаходзяцца тры алтары, сярод іх архітэктанічны гал. Алтар з мастацкай дэкарацыя аўтарства айца Фрэдэрыка Обста (пам. пасля 1777).



Полацк. Касцёл езуітаў Наведвання Найсвяцейшай Панны Марыі і Св. Стэфана. Абраз "Пакланенне Маці Божай святых езуітаў". Аўтар: Сымон Чэховіч (майстэрня). Цяперашняе знаходжанне абраза: касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Аполе Любэльскім (Польшча)

# Лучай

рус. Лучай, пол. Łuczaj; Віцебская вобласць

Мясцовасць з 1731 г. была ўласнасцю Агінскіх, а з 1786 г. - Ваньковічаў. Місія езуітаў існавала тут з 1731 г.

**Касцёл езуітаў Св. Тадэвуша, Св. Ігнацыя і Св. Францішка Ксаверыя**

Пабудаваны ў 1766–1774 гг. (бяз скляпенняў і вежаў) з фундацыі троцкага кашталяна Тадэвуша Агінскага (пам. 1783) і яго сястры, жонкі мсціслаўскага кашталяна Эльжбеты з Агінскіх Пузыні (пам. 1767), намаганнямі суперпрыёра Уладзіслава Галашэўскага. З 1773 г. пры ім дзейнічала парафія. Асвечаны ў 1777 г. У перш. палове XIX ст. быў перабудаваны ў стылі класіцызма (верхнія часткі вежаў, паўкруглы франтон, агароджа, брама). У 1948 г. касцёл зачынены. З 1971 г. у ім размяшчаўся склад ламачча. Вернуты католікам у 1990 г.

Гэта касцёл з трансептам, сляпым купалам і часткова закрытым прэсбітэрыем. Пляскаты двухвежавы цэтральны і бакавыя фасады абягае трыгліфавы фрыз. Інтэр'ер аздабляюць пяць алтароў і аптычная мастацкая дэкарацыя (маст. Казімір Анташэўскі, пасля 1786), якія прафінансавалі Тадэуш і Ганна Ваньковічы. Партрэты фундатараў касцёла былі перанесены з Лучая ў Віцебск.



Касцёлезуітаў Св. Тадэвуша, Св. Ігнацы і Св. Францішка Ксаверыя

# Лужкі

рус. Лужки, пол. Łużki; Віцебская вобласць

**Калегіум піяраў**

Заснаваны ў 1741 г. полацкім кашталянам Валерыянам Жабай (пам. 1753) на яго спадчынных землях. Будынак узведзены ў 1804 г. Пасля скасавання ў 1832 г. у комплексе дзейнічалі вядомыя школы, якія называліся ад імя заснавальніка валер'яноўскімі.

Гэта быў будынак, які меў у плане форму прамакутніка. Не захаваўся.

**Касцёл піяраў Міхаіла Архангела**

Пабудаваны ў 1742–1756 гг. пад кіраўніцтвам архітэктара Абрама Вютцэра, скончаны намаганнямі ўдавы фундатара Іанны з Скарульскіх і яго сына Ігнацыя Жабы, каралеўскага камергера. Рамантаваўся у 1805 г. намаганнямі фундатаркі Людвікі з Кеўбжаў Жабы. У 1835 г. касцёл быў закінуты, а ў 1843 г. заменены на царкву. У 1919–1948 гг. і з 1988 г. належаў католікам. Пры ім дзейнічае парафія.

Двухвежавы фасад з дыаганальна пастаўленымі вежамі, якія знаходзяцца наперадзе трохпралётнага нефа, падзеленага ўнутры прысценнымі паўкалонамі і з ніжэйшым, часткова закрытым прэсбітэрыем. Першапачаткова інтэр'ер упрыгожвалі пяць драўляных алтароў. Звяртаюць увагу розныя арнаментальныя дэталі і формы надваконных карнізаў і капітэляў.



Касцёл піяраў Міхаіла Архангела

# Мядзел

рус. Мядель, пол. Miadzioł Stary; Мінская вобласцьvv

**Кляштар кармелітаў босых**

Заснаваны разам з касцёлам спадчыннікам мястэчка зажэцкім старостай Антоніем Кошчыцам. Скасаваны ў 1832 г. Да 1860 г. сюды былі інтэрнаваны непакорныя базыліянкі. У 1943 г. быў спалены, а яго функцыі пераняў дом для чэлядзі.

**Касцёл кармелітаў босых Маці Божай Шкаплернай і св. Юстына**

Пабудаваны пасля 1744–1754 па фундацыі Антонія Кошчыца для захавання атрыманых падчас аўдыенцыі ў Бенедыкта XIV рэліквій св. Юстына Пакутніка. У 1765–1772 гг. на пагорках пры дарозе да Паставаў намаганнямі Кошыца паўстала Кальварыя, складзеная з 21 капліцы і васьмі брамаў (не захавалася). Пасля ліквідацыі кляштара рэліквіі ў 1838 г. патрапілі ў  парафіяльны касцёл у Мосары (фундацыя Бжазоўскіх, 1792). З 1839 г. храм стаў праваслаўнай царквой, а з 1866 г. пры ім дзейнічаў прыход. У 1920–1949 гг. зноў служыў католікам (у 1927 г. вярнуліся ў Мядзел кармеліты). З часу рэпатрыяцыі манахаў у Польшчу ў 1949 г. закінуты касцёл разбураўся. Быў вернуты ў 1989 г. і адрамантаваны.

Цэнтрычная пабудова ў плане квадрата ўпісана ў кубічную форму. Належыць да самых арыгінальных праяўленняў барочнага класіцызму ў Вялікім княстве Літоўскім і ўвасабляе ідэю мартырыума. На тры бакі накладваюцца порцікі з парамі карынфскіх калонаў на высокіх цокалях. Васьмігранны барабан купала (упрыгожаны фрэскай Страшнага Суда, замаляванай ў 1839 г.) акружае ўнутраная галерэя.



Касцёлкармелітаў босых Маці Божай Шкаплернай і св. Юстына



Архіўны фотаздымак хароў касцёла кармелітаў босых Маці Божай Шкаплернай і св. Юстына

# Мсціслаў

рус. Мстиславль, пол. Mścisław; Магілёўская вобласць

### Калегіум езуітаў

Місія езуітаў, заснаваная ў 1614 г. Жыгімонтам III, скарацілася, таму ў 1690 г. па ініцыятыве мсціслаўскага падстаросты Юзафа Галынскага прынялі ўнёсак на яе аднаўленне. У 1711 г. месца імкнулася атрымаць статус рэзідэнцыі, а ў 1779 г. атрымала статус калегіума. Цяперашні будынак узведзены ў 1764 і 1779-1796, а будынак інтэрнату для шляхты каля 1785 г. Езуіты былі выселены ў 1820 г. Пасля 2000 г. будынкі выкарыстоўваюцца пад школу для глуханямых дзяцей і інтэрнат.

Гэта двухпавярховыя будынкі, якія знаходзяцца за прэсбітэрыем касцёла.

### Касцёл езуітаў Св. Міхала Арханёла

Пабудаваны ў 1730–1749 (з перапынкамі;



Фасад касцёла езуітаў Св. Міхала Арханёла



Касцёл езуітаў Св. Міхала Арханёла

звонку так і не быў скончаны) пад кіраўніцтвам Бенедыкта Мёсмера і Францішка Ігнацыя Бермана (цясляра). Асвечаны ў 1752 г. З 1775 г. пры касцёле дзейнічала парафія. У 1832 г. быў перабудаваны пад праваслаўны Свята-Мікалаеўскі сабор. У той час разабралі вежы, крыжовы пралёт увенчаны драўляным купалам. З 1998 г. будынак рамантуецца з прызначэннем пад музей.

Гэта базіліка з трансептам і паўкруглым закрытым прэсбітэрыем. Пляскаты двухвежававы фасад з крухтай, звернуты на рынак. Быў аздоблены мастацкай дэкарацыяй і сяммю алтарамі са штучнага мармуру.

### Кляштар кармелітаў

Створаны ў 1618–1622 гг. з фундацыі мсціслаўскага войскага Якуба Караля Мадалінскага і мсціслаўскага старосты Крыштафа Стэфана Сапегі. Цяперашні будынак паўстаў у трэцяй чвэрці XVIII ст. Кляштар зачынены ў 1832 г.

Гэта мураваны двухпавярховы будынак, узведзены на плане прамакутніка і праз закрысцію звязаны з касцёлам.

### Касцёл кармелітаў Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі

Пабудаваны ў 1717–1721 гг. намаганнямі пробашча Серапіёна (Казіміра) Жавускага на грошы шляхты, рэстаўраваны і ўпрыгожаны ў 1756–1768 гг. намаганнямі прыёра Томаша Кіркора на сродкі Глікаў і Галынскіх – тады паўсталі шчыт і верхнія часткі вежаў, стукавы алтары і роспісы Юзафа Давіда, якія прадстаўляюць сцэны падзей гісторыі горада (напрыклад, разня ў Мсціслаўлі, учыненая войскамі князя Трубяцкога ў 1654 г.). Пасля скасавання кляштара пры касцёле існавала парафія. У 1887 г. быў грунтоўна адрамантаваны. Зачынены ў 1937 г. У 1992 г. быў вернуты католікам – з таго часу пастулова рэстаўруецца.

Двухвежавая базіліка са шматкутным закрытым прэсбітэрыем і масіўным паўтараўзроўневым фасадам, падзеленым шырокімі пілястрамі з нішамі



Касцёл кармелітаў Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі

# Полацк

рус. Полоцк, пол. Połock; Віцебская вобласць

**Сабор Св. Сафіі (Божай Мудрасці)**
Лічыцца самым старажытным помнікам мураванага дойлідства ў Беларусі.Ззаснаваны каля 1044–1066 гг. полацкім князем Усяславам Брачыслававічам, званым Чарадзеем як сімвал незалежнасці княства. Перабудова каля 1490 г. надала яму абарончыя рысы. У 1596 г. стаў кафедрай уніяцкага арцыбіскупа, а ў 1668 г. у ім размясціліся базіліяны. У 1619–1622 гг. быў аднаўлены і перабудаваны (тады разабралі купал) архітэктарам Кромерам па ініцыятыве арцыбіскупа Іясафата Кунцэвіча, а хутка пасля яго пакутніцтва у ім быў змешчаны срэбны саркафаг з целам Св. Іясафата. У 1710 г. быў зруйнаваны па прычыне выбуху пораху, які там захоў-



Сафійскі сабор (Божай Мудрасці)

ваўся. Сучасны выгляд атрымаў у выніку грунтоўнай перабудовы, якая праводзілася ў 1738–1762 гг. па ініцыятыве полацкага арцыбіскупа і мітрапаліта Фларыяна Грэбніцкага (1684–1762). У 1768–1772 гг. пры саборы працаваў архітэктар Юзаф Бертольд Кашовіч дэ Лендорф (Ліндорф), які заставаўся на паслугах у арцыбіскупа Язона Смагажэўскага. Пасля ліквідацыі ўніі (1839) храм быў перададзены праваслаўным. У 1913 г. адрамантаваны паводле праекта Пятра Пакрышкіна. Каля 1932 г. быў зачынены. У 1945–1969 гг. у ім размяшчаўся архіў і кнігазбор. Адрэстаўраваны ў 1985 г. і выконвае функцыі канцэртнай і музейнай залі.

У выніку перабудоў у XVIII ст. храм стаў трохнефавай базілікай з ніжэйшым прэсбітэрыем, закрытым апсідай. Яе высокі фасад з двума вежамі, якія фланкіруюць маляўнічы франтон, скіраваны на паўдн. бок Дзвіны, насупраць трох сярэднявечных шматгранных апсід, захваных з усход. боку, узведзеныя новыя, якія абазначаюць такім чынам папярэчныя канцы крыжа. Унутры звяртае ўвагу фантазійныя формы міжнефавых арак і дынамічныя формы стукавага іканастасу і хораў.

### Калегіум езуітаў

Заснаваны ў 1580 г. па ініцыятыве першага рэктара кс. Пятра Скаргі, меў багатае ўбранства, атрыманае са шматлікіх праваслаўных цэркваў і манастыроў дзякуючы Стэфану Баторыю. Належаў да самых вялікіх езуіцкіх калегіумаў на землях Рэчы Паспалітай. Сучасны будынак узведзены ў 1748–1760 гг. У 1764 г. быў аточаны мурам. У сувязі з тым, што ордэн не быў скасаваны на тэрыторыі Расійскай імперыі, у 1773–1820 калегіум выконваў функцыі сядзібы генерала і сусветнага цэнтра Таварыства Езуса. Пасля 1778 г. быў пашыраны. Пасля 1779 г. тут знаходзіліся езуіты з зачыненых польскіх і замежных калегіумаў, былі сабраны ўражваючыя бібліятэчныя і мастацкія (музейныя) зборы (каля 40 тыс. старадрукаў), створаны лабараторыя і друкарня (1787). У той жа час калегіум быў спалучаны з будынкамі школы і інтэрната. У 1812 г. інтэлектуальны і матэрыяльны патэнцыял стварылі магчымасць адкрыцця Акадэміі, якая дзейнічала да выгнання езуітаў з Расіі ў 1820 г. (большасць яе збораў трапіла ў Санкт-Пецярбург, Маскву і Віцебск). Да 1829 г. у былых езуіцкіх будынках ордэн піяраў утрымліваў ліцэй. У 1833–1835 гг. комплекс быў перабудаваны па праекту Пятра Антонія Порты і ў іх размясціўся кадэцкі корпус. Пасля 1945 г. у частцы захаваных будынкаў пасля знішчэнняў вайны размяшчаўся вайсковы шпіталь, а з 2005 г. музей і гістарычна-філалагічны факультэт Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Калегіум займаў зах. частку рынка, расцягнуўшыся ўглыб Замкавага ўзвышша. Гэта была трохузроўневая пабудова вакол дзядзінца за прэсбітэрыем.



Сафійскі сабор (Божай Мудрасці). Верхняя частка галоўнага алтара

### Касцёл езуітаў Наведвання Найсвяцейшай Панны Марыі і Св. Стэфана

Пабудаваны ў 1733–1745 гг. пад кіраўніцтвам будаўнікоў ордэна Казіміра Матэлякоўскага і Бенедыкта Мёсмера. Пасля пажараў у 1750 г. і 1762 г. быў адрамантаваны і абноўлены, у 1762–1765 гг. пашыраны вокны, у 1762–1766 гг. выкананы дзевяць стукавых алтароў з абразамі Сымона Чэховіча і арган (хутчэй за ўсё, твор Дамініка Адама Каспарыні, зараз знаходзяцца ў касцёле св. Яна ў Вільні). З 1783 г. працы над убранствам і аздабленнем касцёла працягвалі такія мастакі-езуіты, як Якуб Грым, Ян Вогт, Габрыэль Грубер, Францішак Прышчынскі і Ян Шцюрмер. У 1801 г. быў прывезены абраз з Вероны Saveria dalla Rosa. А ў 1807–1830 гг. знаходзіліся рэліквіі Св. Андрэя Баболі, перанесеныя затым у касцёл дамініканцаў, які знаходзіўся недалёка. Пасля выгнання езуітаў касцёл прынялі піяры. У 1830 г. касцёл заменены на Свята-Мікалаеўскі сабор. Быў адноўлены пасля пажараў у 1871 і 1912 г. У 1941 г. страціў дах, вежы і купал, а ў 1964 г. быў узарваны. У 1978 г. на яго месцы паўстаў шматкватэрны дом.

Касцёл быў пабудаваны на плане крыжа з прэсбітэрыем, закрытым апсідай на таўшчыню сценаў. Увенчаны купалам, які размяшчаўся на перакрыжаванні нефаў, меў пляскаты фасад, падзелены добраўпарадкаванымі пілястрамі з фігурамі ў нішах, з відам на рынак. Разнастайнасць архітэктуры касцёла стваралі верхнія ўзроўні вежаў крывалінейнай формы і маляўнічыя шчыты на іх (1754), а таксама купал з прыломленым навесам на сярэдзіне вышыні (1751–1752), які падобны да формы купалоў касцёлаў Св. Духа (1749) і Св. Казіміра ў Вільні.

# Селішча

рус. Селище, пол. Sieliszcze; Віцебская вобласць

### Кляштар бернардынцаў

Заснаваны ў 1726–1729 гг. уладальнікам мястэчка, полацкім падсудкам Язафатам Антоніям Сялявай. У 1790 г. манахі разглядалі магчымасць зы'оду з кляштара па прычыне недахопу сродкаў на ўзвядзенне каменнага будынка замест драўлянага. Невялікі кляштар ў 1826 г. зменшыўся да узроўня рэзідэнцыі, а затым у 1832 г. быў зачынены.

Гэта будынак з двума крыламі, двухпавярховы, прылягаючы з поўдня да закрысціі касцёла.

### Касцёл бернардынцаў Св. Веранікі

Пабудаваны пасля 1741–1757 гг. з фундацыі Язафата Антонія Сялявы і Элеаноры з Козелаў, а таксама падчашага і полацкага ротмістра Яна Юзафа Рагозы на месцы драўляных пабудоваў, пастаўленых для бернардынцаў ў 1726–1729 гг. Пасля ліквідацыі кляштара пры ім дзейнічала парафія. Пасля 1864 г. узбагацілася за кошт прадметаў, перанесеных з зачыненых храмаў у Кублічах і Ушачаў. У 1897 г. намаганнямі кс. Антонія Сімановіча быў праведзены грунтоўны рамонт, спалучаны з пабудовай вежаў. Дзейнічаў да 1926 г. Пасля знішчэння падчас Другой сусветнай вайны не адбудоўваўся. Знаходзіцца ў паўразбураным стане.

Базіліка пабудавана ў плане крыжа, упісанага ў прамакутнік, вылучаецца кароткі прэсбітэрый з паўкруглым верхам, упісаным у абрыс сценаў (як у касцёле езуітаў у Полацку і францішканаў у Губіне). Двухвежавы, пляскаты, добраўпарадкаваны фасад запоўнены конхавымі нішамі, якія ствараюць архаічны выгляд. Нягледзячы на разбурэнні, высокі ўзровень архітэктуры паказваюць рэшткі аздобленых стукавых алтароў на канцах трансепта.



Касцёл бернардынцаў Св. Веранікі

# Смаляны

рус. Смоляны, пол. Smolany; Віцебская вобласць

Мясцовасць знаходзіцца ў 25 км на зах. ад Оршы. З 1543 г. была ўладаннем Сангушкаў. Тут знаходзіўся замак "Белы Ковель", пабудаваны ў 1617 г., да сённяшняга дня засталіся толькі яго рэшткі.

### Кляштар дамініканцаў

Закладзены ў 1680 г. супрасльскім старостай Геранімам Сангушкай і Тэадорай Канстанцыяй з Сапегаў у гонар дня нараджэння сына Паўла Караля. Зачынены ў 1832 г. Грунтоўна перабудаваны ў 1937 г.
Гэта аднапавярховы каменны будынак.

### Касцёл дамініканцаў Успення Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Пабудаваны ў 1768–1786 гг. з фундацыі жонкі літоўскага маршалка Барбары з Дунінаў Сангушкі (пам. 1791) і яе сына, валынскага ваяводы Геранімa Януша (пам. 1812). Пасля скасавання кляштара быў прыхадскім касцёлам. Рамантаваўся ў 1898–1899 гг. намаганнямі пробашча Герасімовіча пад кіраўніцтвам архітэктараў Даўкшы і Лявона Вітан-Дубейкоўскага.
Касцёл быў зачынены каля 1931 г., а ў 1945–1989 гг. выкарыстоўваўся пад калгасны гараж. Зараз разбураны.
Храм мае двухвежавы фасад з трыма ўвагнутымі восямі, падзеленымі пілястрамі, трансепт упісаны ў прамавугольны нефавы корпус, а прэсбітэрый замкнуты паўкругам.



Касцёл дамініканцаў Успення Найсвяцейшай Дзевы Марыі

# Талачын

рус. Толочин, пол. Tołoczyn; Віцебская вобласць

Горад размешчаны на тракце Мінск-Смаленск. У 1772–1793 гг. тут знаходзілася памежная мытная камора. Быў уласнасцю Сапегаў, а затым Сангушкаў.

### Кляштар базыліянаў

Закладзены ў 1604 г., дзейнічаў вельмі кароткі час. Новы кляштар узнік у 1769–1779 гг. У 1834 г. быў скасаваны, узнавілі яго як жаночы манастыр ў 2004 г.
Гэта двухпавярховы будынак, узведзены ў плане прамакутніка.

### Царква Покрыва Прасвятой Багародзіцы

Пабудавана ў 1768–1796 гг. з фундацыі Барбары Сангушкі, скончана каля 1803 г. (верхнія часткі вежаў). Пасля скасавання кляштара стала праваслаўнай царквой. У 1993 г. была адрэстаўравана. З 1996 г. пры ёй функцыянуе праваслаўны прыход.

Форма двухвежавага фасада (паўн.) царквы адрозніваецца дынамічнай, ламанай лініяй выпуклых і ўвагнутых элементаў. Унутры захаваўся мураваны іканастас (да 1796 г.). Архітэктура царквы з’яўляецца дакладнай копіяй былога базыліянскага храма ў Любавічах (Смаленская вобласць, Расія).



Царква базыліянаў Покрыва Прасвятой Багародзіцы



Царква базыліянаў Покрыва Прасвятой Багародзіцы

# Удзела

рус. Удело, пол. Udział; Віцебская вобласць

### Кляштар францішканцаў

Заснаваны ў 1643 г. мсціслаўскім ваяводай Юзафам Корсакам і Марцыянай са Швейкоўскіх. Цяперашні будынак узведзены ў 1766–1805 гг. Кляштар скасаваны ў 1851 г. Пасля 1948 г. у ім размяшчалася школа. Зараз ізноў належыць францішканцам.

Гэта мураваны двухпавярховы будынак, пабудаваны у плане падковы, першапачаткова спалучаны з касцёлам галерэямі (захавалася адно крыло, другое разабрана ў 1882 г.).

### Касцёл францішканцаў Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі

Пабудаваны ў 1777–1791 гг. намаганнямі правінцыяла біскупа Фелікса Тавянскага, магчыма, паводле яго парадаў і "абрысы дадзеныя кс. базыльяна з Беразвечча". Пасля пажару ў 1809 г. касцёл перабудаваны (фасад пазбаўлены вежаў, слупы паміж нефамі ўпрыгожаны іёнскімі пілястрамі, зменены інтэр'ер). У 1837 г. барокавы франтон заменены на трохкутны. Пасля 1948 г., выконваючы функцыі асяродка парафіі, касцёл быў зачынены і пачаў выкарыстоўвацца пад склад. У 1989 г. яго аддалі католікам. Да 2000 г. касцёл адрэстаўравалі намаганнямі кс. Юзафа Булькі, пробашча з Мосара. У 2000 г. перададзены ордэну францішканцаў.

Гэта была трохнефавая заля, упісаная ў абрыс прамакутніка, з часткова выступаючым прэсбітэрыем. Хвалістыя пралёты першапачаткова двухвежавага фасада раздзелены пілястрамі і калонамі, пастаўленымі наўскрозь. Бакавыя фасады падзелены пілястрамі.





Касцёл францішканцаў Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі

# Віцебск

рус. Витебск, пол. Witebsk; Віцебская вобласць

### Кляштар бернардынцаў

Заснаваны ў 1676 г. віцебскім ваяводай Янам Антоніем Храпавіцкім. Узведзены ў 1753–1761 гг. паводле праекта Юзэфа Фантаны. Скасаваны ў 1832 г. У 1844 г. перададзены пад органы кіравання адукацыяй. Пасля перабудовы 1852 г. размяшчаўся інтэрнат Аляксандраўскай гімназіі і з 1876 г. камісія па асвеце. Быў зруйнаваны разам з касцёлам у 1961 г.

Гэта быў двухпавярховы будынак, тры крылы якога разам з бакавы фасадам касцёла вызначалі квадратны дзядзінец. Разам з касцёлам займаў усю ўсходнюю частку рынка.

### Касцёл бернардынцаў Св. Антонія

Пабудаваны ў 1742–1755 гг. паводле праекта Юзафа Фантаны з фундацыі віцебскага падкаморыя Казіміра Саковіча (пам. 1736) і намаганнямі ўдавы Тэклі з Лазарскіх, жонкі віцебскага ваяводы Марцыяна Агінскага, і гвардыяна Адрыяна Себестыяньскага. У 1768 г.касцёл быў асвечаны. Каля 1775 г. былі пачатыя працы на фасадзе (верхнія узроўні вежаў і франтон). Над багатым упрыгожваннем (дзевяць мураваных алтароў і амбон) працавалі, акрамя Фантаны, майстры Людвік Яздоўскі (1756–1758) і Ян Азелевіч (1766). У 1832–1937 гг. быў парафіяльным касцёлам. У 1882 г. і 1898 г. храм быў адрамантаваны. У 1939 г. у ім арганізаваны музей атэізма. У часы нямецкай акупацыі (1941–1944) вернуты набажэнствы. Касцёл перажыў вайну, пазбавіўся вежаў і франтона. Быў зруйнаваны ў 1961 г., дзесяцігоддзе пазней яго месца заняла пашыраная вуліца Леніна і плошча з фантанам.

У архітэктуры храма дамінавалі гарызантальныя падзелы. Лёгкасць раскінутаму двухузроўневаму фасаду надавалі верхнія узроўні двух вылучаных вежаў і франтон – элементы з'явіліся толькі ў 1775 г. Над апсідай прэсбітэрыя ўзвышалася атыка, якая змяшчала сігнатуру. Унутры звяртаў увагу гал. алтар, выкананы ў 1749–1753 гг., падобны да алтара Св. Ігнацыя ў рымскім касцёле Il Gesù.

### Уніяцкая Васкрасенская царква («Рынкавая»)

Пабудавана ў 1763(?)–1772 гг. з фундацыі купца Мікалая Смыка і Еўдакіі са Свіршчэўскіх, намаганнямі пробашча Тэадора Юрэвіча. З 1799 г. мела статус саборнай. У 1834 г. перададзена праваслаўнай царкве. Перабудавана ў 1841 г. паводле праекта епархіяльнага архітэктара Антонія Порты (былі разабраны верхнія часткі, пабудаваны драўляны купал, уваходны порцік і іканастас). Яе рамантавалі ў 1913 г. Каля 1928 г. была зачынена, а ў 1936 г.



Архіўны здымак панарамы горада


Уніяцкая Ўваскрасенская царква

узарвана (захаваўся фундамент, на якім пасля выраўнання зрабілі газон). У 2001–2006 гг. праведзена рэканструкцыя па праекце Ігара Роцька і Аляксандра Міхайлюкова, царква была перададзена праваслаўнай епархіі.

Царква суседнічала з ратушам, разам ствараючы сцэнаграфічную кампазіцыю рынкавай плошчы. Высокі фасад з трыма ўвагнутымі часткамі, падзеленымі карынфскімі калонамі, вянчалі ажурныя вежы, якія змяншаліся уверсе, і маляўнічы двухузроўневы франтон. Фасад папярэднічаў нефу, абкружанаму парамі прысценных калон, які завяршала вузейшая апсіда, каранаваная звонку высокай паўкруглай выгнутай атыкай. Інтэр'ер аздаблялі сем драўляных алтароў. Асобныя мастацкія рашэнні гэтага выбітнога твора архітэктуры паўтараюцца ў шматлікіх іншых храмах на тэрыторыі Беларусі.

### Кляштар базыліянаў

Заснаваны ў 1682 г. віцебскім падкаморыем Адамам Францішкам Кіселем. У 1743–1785 гг. драўляныя будынкі заменены муравaнымі. У 1799 г. вялікі будынак занялі губернскія ўправы і адміністрацыя сабора. У 1856 г. адаптаваны пад патрэбы духоўнай семінарыі, перанесенай з Полацка. З 1920 г. гал. корпус кляштара займаў тэхнікум.

Кляштарныя будынкі сканцэнтраваліся на паўн. баку кафедральнага храма вакол прамакутнага падворка. Вялікі трохузроўневы гал. корпус звернуты да Дзвіны 20-восевым фасадам, падзеленым шырокімі добраўпарадкаванымі пілястрамі.

### Царква базыялінаў Успення Найсвяцейшай Багародзіцы і св. Іасафата

Саборная царква з'явілася з канца XIV ст. на вяршыні Лысай гары (Успенскі вал) пры ўпадзенні Віцьбы ў Дзвіну. У 1623 г. была месцам пакутніцтва св. Іасафата Кунцэвіча. Ідэя будаўніцтва муравaнага кафедральнага храма была выклікана жаданнем стварыць годнае месца культу пакутніка і яго рэліквій.

Пабудавана ў 1743–1755 і1775–1785. Будаўніцтва пачалося ў часы суперпрыёра Юстына Чэчкоўскага паводле праекта Юзафа Фантаны, дзякуючы легатам баратам Міхалу і Сымону Лаппам і іншым віцебскім купцам. Па прычыне недахопу сродкаў будаўніцтва спынілася. Скончана ў часы праўлення суперпрыёра Бенедыкта Эляшэвіча па рэкамендацыі полацкага ген. губернатара Міхаіла Крачэтнікава. У 1799 г. яе замянілі на праваслаўны Успенскі сабор. У 1803–1804 гг. з ініцыятывы губернатара Міхельсона храму былі нададзены рысы класіцызму (у той час знішчаны арыгінальныя арнаменты, верхнія часткі заменены трохкутнымі франтонамі, а таксама пабудаваны вялікі драўляны купал на цыліндрычным барабане). У 1839–1844 гг. унутры быў праведзены грунтоўны рамонт (так, перад муравaным іканастасам паставілі новы драўляны). Наступныя змены адбыліся ў 1869–1873 і 1911–1913 гг. Пасля 1920 г. сабор стаяў пусты, а ў 1926 г. быў нацыяналізаваны. У верасні 1936 г. яго ўзарвалі, на яго месцы былі пабудаваны майстэрні машыннага тэхнікума. Пасля іх разборкі ў 1991 г. пачаліся даследаванні фундаментаў для далейшай рэканструкцыі сабора. Яна адбылася ў 2000–2010 гг. паводле праекта Ігара Роцька і Аляксандра Міхайлюкова, вяртаючы формы будынка ў стылі класіцызму ўзору 1804 г.

Манументальная базіліка мела трансепт, які не выступаў за сцены трохнефавага корпуса

і шэрагі паглыбленых капліцаў, адкрытых ад бакавых нефаў і накрытых агульным з імі дахам. Кароткі, паўкруглы закрыты прэсбітэрый абкружала абходная галерэя ў шырыню і вышыню бакавых нефаў. Перад 1804 г. аздабленнямі бакавых фасадаў былі высокая верхняя частка трансепта, увенчаная перарванымі карнізамі. Звернуты да дзядзінца двухузроўневы фасад з дзвюма вежамі спалучаў дынамічную форму са света-ценявой значнасцю шматлікіх калон. План храма, разам з формай яго фасада, быў дакладнай копіяй вядомага з графічных выяваў праекта рымскага касцёла San Carlo al Corso (праект 1613 Анорыё і Марціна Лонгі), таксама выкарыстанага ў архітэктуры касцёла бернардынцаў у Будславе.

# Засвір

рус. Засвирь, пол. Zaświrz; Мінская вобласць

### Кляштар кармелітаў

Самая ранняя інфармацыя пра кармелітаў ў Засвіры паходзіць з 1697 г. Кляштар узведзены разам з касцёлам у 1713–1714. Скасаваны ў 1832 г.

Тры крылы будынка разам са сцяной касцёла абкружалі шырокі прамакутны дзядзінец са скверам. У цяперашні час захаваўся ў выглядзе руінаў.

### Касцёл кармелітаў Св. Троіцы і Найсвяцейшай Панны Марыі

Пабудаваны ў 1713–1714 гг. з фундацыі ашмянскага маршалка Крыштафа Зяновіча і Ядвігі са Швейкоўскіх, уладальнікаў зямель, паводле праекта, выкарыстанага Янам Пенсэ пры пабудове касцёла ў Міхалішках (1686–1693). Асвечаны ў 1766 г. Пасля скасавання кляштара быў філіяльным касцёлам парафіі ў Свіры. У 1865 г. перададзены царкве. У 1919 г. быў вернуты каталікам – з таго часу пры ім дзейнічае парафія. У 1945 г. быў зачынены і занядбаны. Вернуты у 1990 г. і адрэстаўраваны.

Гэта аднанефны касцёл з кароткім прэсбітэрыем, закрытым апсідай. Пазбаўленыя аздаблення кубічныя формы без арнамента і ўпарадкаваных архітэктурных элементаў імкнуцца да лакальнай традыцыі (напр., творы Анджэя Кромера). Фасад з дзвюма вежамі, выступаючымі на вуглах корпуса, змяшчае наперадзе крухту ў плане падковы.



Касцёл кармелітаў Св. Тройцы і Найсвяцейшай Панны Марыі

